# ЗАРАНКА



КНІЖКА

2-3 (15-16)

# Каталёг кніжак для дзяцей.

| | | |
|---|---|---|
| Ганс—Хрыст. Андэрсэн — „Казкі“ — | — цана | 1 зл. 45 гр. |
| С. Макманус. „Ірлянд. народн. казкі“ — | „ | 2 зл. 75 — |
| А. К. „казкі“ — — — — — — — | „ | — — 40 — |
| Выд. Бел. Крыніцы. „Садок для нашых дзетак (лацін.) | | 35 — |
| Марк Твэн—„Прынц і жабрак“ — — — | „ | 5 зл. — — |
| Леў Талстой—„Для дзяцей“ — — — | „ | 3 зл. 50 — |
| Л. Чарняўская—„Дзяціныя гульні“ — — | „ | — — 25 — |
| А. Грыневіч—„Дзіцячы сьпеўнік“ — — | „ | 1 зл. 20 — |

## Сцэнічныя творы.

| | | |
|---|---|---|
| П. Салаўёў—„Цудоўная ноч“ (лацін.) — | „ | — — 40 — |
| „Малады Дзядок“—„Елка Дзеда Мароза“ | „ | — — 35 — |
| Н. Ігарава—„Сірата“ — — — — — | „ | — — 20 — |
| Р. Завадовіча—„Князь Марцыпан“— — | „ | — — 30 — |

* * *

Вельмі цікавая таварыская дзіцячая гульня:

„Зоолагічнае лато“ — — — — — —цана 1 зл. 75 гр.

Усё пералічанае можна выпісаць з Беларускай кнігарні Выдавецкага Т-ва, адрас: „Wilno, ul. Ostrobramska Nr. 1.

Цэны пададзеныя бяз коштаў перасылкі.

# „ЗАРАНКА"

Ілюстраваная часапіс для дзяцей.

Год III. Вільня, Люты—Сакавік 1929. № 2-3 (15-16).



## Сонейка грэе!

Сонейка, ты, залатое!
Сколькі цёмных, сумных дзён
Мы чакалі дарагое
У нашых хатках ля вакон
Тваіх ясных, цёплых косак,
Твае ласкі і пяшчот,
Што збудзілі-б жыцьцё вёсак,
Поле, траўку, лес, чарот...
Разбудзілі-б птушак хоры,
Жаб зялёных грамаду;
Растапілі-б сьнегу горы,
Адагрэлі-бы ваду...

* * *

І прышоў вось час жаданы:
Сонца коскі свае шлецъ,
Каб збудзіць наш Край каханы,
Разбудзіць і абагрэць.

*З. В.*

# Ноч перад Новым Годам.

(Працяг).

Цікавую гутарку дзетак перарывае маці, клічучы ўсіх за стол. Хуценька прыбеглі радыя дзеці, зьлез з печы дзед, устаў бацька, нат' кот саскочыў з каптура, трэцца каля дзяцей і раз па разу кладзе лапкі на стол і высоўвае свой ружовы нос, з захопленьнем нюхаючы смачны пах прысмакаў.

— Чаго-ж, чаго там на стале ня было! І мяса, і каўбасы, і аладкі і салодкая куцьця... Са смакам елі і старыя і малыя; мурлыкаючы ад здаволеньняў зьядаў і кот тое, што яму дзеці кідалі пад стол.

— Але-ж было ўжо даволі позна, усім хацелася спаць, а маленькі Юрачка нат' добра заснуў на руках у мамы. Толькі Янка, прытуліўшыся да бацькі, шаптаў яму аб сваіх жаданьнях і надзеях на тыя радасьці, якія павінен яму прынясьці Новы год. Але-ж і яго вочкі былі што раз больш сонныя і ён ахвотна паслухаў мамы, якая, паслаўшы пасьцель, клікала дзетак спаць. У хуткім часе ў хаце было зусім цёмна і ціха. Толькі праз вокны заглядалі ясныя, зіхацячыя зоркі... Глядзелі яны на ўсьміхаючыяся тварыкі дзетак, якія і ў сьне лятуцелі аб тым, што ім прынясе Новы Год.

* * *

На канцы тае-ж самае вёскі, згорбіўшыся ад старасьці, прысела пасярод курганоў сьнегу малюсенькая хатка старэнькай жабрачкі. — Ціха ў хатцы і сумна,—у гэту марозную навагоднюю ноч. — Не гарыць у печцы, ня відаць ніякага перадсьвяточнага руху, а дробныя замерзшыя шыбкі слаба мігцяць ад дрыжачага сьвету лучыны. — У хатцы сьцюдзена і панура... У куточку на ўслоне сядзіць скорчыўшыся маленькая, мо сямі-васьмі гадовая дзяўчынка — унучка старой жабрачкі. Яе парваная сукенка не закрывае худзенькіх босых ножак, а дрыжачыя ручкі моцна, моцна прыціскаюць да грудзей дзіравую хустку. Яе бабулька яшчэ не вярнулася з жэбраў. Дзяўчынка адна ў гэтых голых, сумных сьценах засыпанай сьнегам хаткі... Ей страшна... Страшна ад гэтых жудасна лунаючых па сьценах ценяў

змроку... Страшна ад погляду дзюрак-воч лысага сьвятога на абразе. Дзяўчынцы хочацца есьці, а ў хатцы нічагусенькі няма. Апошнюю лусту хлеба яна даўна зьела і цяпер на вячэру чакае бабулькі. Сёньня багатая куцьця, людзі добра дораць. Бабулька павінна прынясьці шмат хлеба, а пэўна назьбірае і закрасы. Але вось нешта спазьнілася, ня йдзе.

Дзяўчынка час ад часу ўстае з услону і паглядае праз маленькую прахуханую ў замерзшай шыбцы дзюрачку. Мо' часам ідзе бабулька? Але нічагусенькі ня відаць, апрача белага сьнегу і маленькай латкі цёмна-сіняга неба, засеянага густа дрыжачымі зоркамі. Пасьля падходзіць да дзьвярэй і прылажыўшы вушка слухае, ці ня скрыпяць знаёмыя шагі... Ня чуваць нічагусенькі, толькі недзе ў кутку, ці пад печкай скрабе мыш, — Чаму ня йдзе бабулька, — думае дзяўчынка, — пэўне прыстала, а мо' заначавала дзе спазьніўшыся? — Не, не, не заначуе, яна ведае, што чакае яе галодная ўнучка. — Дзяўчынка ізноў ідзе да вакна, ізноў доўга ўглядаецца ў сьнежную бель. — У хатцы цямнее: дагарае лучынка. Дзяўчынка скідае дымячы агарак на зямлю, у чорную жалязіну сьветача затыкае другую лучыну і доўга грэе худыя, скрэпшыя ручкі над зырка ўспыхнуўшым аганьком.

У хатцы сьцюдзёна... Зьмерзшая дзяўчынка бярэ з палка парваную дзяружку і лезе на не зусім яшчэ астыгшую печ, лажыцца скорчыўшыся і, каб хутчэй нагрэцца, нацягвае дзяругу на галаву.

— Прыемнае цяпло памалу пачало абнімаць худзенькае цела дзяўчынкі і яна крыху павесялела. — Тут ёй зусім ня страшна, а каб так чаго пад'есьці, то было-б зусім добра. — Ці-ж гэта мне пяршыня быць галоднай! — думае яна, — хутка прыйдзе бабулька, вось тады смашна пад'ем!

— З гэтай думкай яна і засыпае.

Хутка ў хатцы стала зусім цёмна. Лучына дагарэла і згасла, толькі ў сьветачы блішчэў яшчэ незатухшы, чырвоны вугаль агарка, які ў цемры выглядаў, як вогнянае вока нейкай пачвары. Час ад часу па хатцы з піскам прабягалі мышы, ды з печы няслося роўнае дыханьне дзяўчынкі.

— Сьпіць дзяўчынка і сьніцца ей, што нарэшце пры-

шла бабулька, а яна жыва саскочыўшы з печы, пачала памагаць бабульцы зьнімаць вялізныя, туга нечым напакаваныя торбы. Рада дзяўчынка: зьнік недзе страх адзіноцтва, ды і хатка неяк дзіўна перамянілася, па сьценах ня поўзаюць даўгія цёмныя цені, на стале ясна гарыць лямпа.

Бабулька выкладае на стол шмат, шмат розных рэчаў: тут ёсьць і хлеб і масла і сланіна і каўбасы, а торба ўсё яшчэ ня пустая.

З другой торбы бабулька выймае новую сукенку і чаравікі і дае ўсё гэта ёй. Пасьля дастае з запазухі шнурок чырвоных пацерак і, вешаючы іх на шыйку анямеўшай з радасьці ўнучкі, цалуе яе шчочкі сваімі зморшчанымі вуснамі, на якіх сьвеціцца ціхая ўсьмешка. Дзяўчынка аглядае прыгожыя падарункі і хуценька пачынае апранацца.

А тымчасам бабулька ўжо разьвяла агонь на прыпечку і па ўсей хатцы расходзіцца прыемны пах і піск скварак.

— Не пасьпела дзяўчынка апрануцца, як на стале ўжо зьявілася сена, белы абрус, а на ім хлеб, куцьця і поўная патэльня каўбас і скварак.

— Садзяцца за стол; бабулька падкладае ўнучцы самыя смашнейшыя кусочкі і пры тым так міла, міла ўсьміхаецца.

* * *

У гэты самы час, як дзяўчынка ў васьне так радасна спатыкала Новы Год, па дарозе, з далёкай вёскі ідзе дамоў старая жабрачка—бабулька нашай дзяўчынкі.

— Скрып, скрып—іграюць марозную песьню дробныя частыя шагі па бліскучай выгладжанай санямі дарозе.

— Бабулька прыстала і, як на грэх, спазьнілася, а да хаткі яшчэ не малы кавалак, вярсты дзьве будзе.

Трэ было раней зьбірацца ў дарогу, думае бабулька— але-ж не заўсёды бывае „багатая куцьця“, не заўсёды людзі так багата дораць. Трэ‘ было з гэтага скарыстаць. Сёньня яна сабрала больш чым за цэлы папярэдні тыдзень. Будзе з чым спаткаць Новы Год, будзе чым пацешыць ўнучку. Толькі вось, каб хутчэй дайсьці да вёскі...

Час ад часу бабулька затрымліваецца і, пазіраючы на бліскучыя зоркі, слухае ці ня скрыпяць ззаду сані якога небудзь спазьніўшагася падарожнага?.. Цішыня... Нічагу-

сенькі ня чуваць... Толькі моцна, моцна б‘ецца сэрца, ды часам здалёк даляціць тужлівая нота галоднай, ваўчынай песьні.

Ізноў ідзе далей бабулька, ізноў скрыпіць сьнег пад нагамі, а змучанае старое цела просіць адпачынку: ломяць плечы ад цяжкіх торбаў, як абцугамі, ціснуць мерзлыя хадакі змучаныя ногі. У галаве мільгаюць адрыўкі думак: Заўтра Новы Год: Што ён прынясе, што ён прынясе? Чым абдорыць?.. Гэтае пытаньне ўзьнікае вось так, мімаволі, бо запраўды яна нічога не чакае ад яго, даўно страціла надзею на паляпшэньне сваей долі. Чаго-ж ёй можна жадаць ад Новага Году. Хіба аднаго: дачакаць ізноў другога. Бо-ж паміма ўсяго ёй ня хочацца яшчэ ўміраць. Сама сьмерць яе ня пужае, але пужае лёс, які спаткае яе маленькую ўнучку, калі яна астанецца адна. Вось, пражыць яшчэ хоць-бы пару гадкоў, падняць яе на ногі, каб сама магла як небудзь здабыць сабе кусок хлеба.

А над усімі гэтымі думкамі стаіць адно жаданьне: дайсьці хутчэй дамоў і сагрэць на печы старое, перамерзшае цела.

— З гэтай думкай бабулька пачала спускацца ў глыбокі яр, які лёг праз дарогу, а там за ім на гарэ пачынаецца вясковае поле — скуль рукой падаць да вёскі. Нават аганькі можна будзе пабачыць. Бабулька апошнімі сіламі ўзьбіраецца на гару. Яна ізноў на роўнай дарозе, ды яшчэ на сваей, на вясковай. Вось, яна нат‘ выразна адрозьнівае слабое мірганьне аконца сваей хаткі, дзе яе чакае малая ўнучка і—цёплая печ.

— Але чаму гэта сэрца так моцна, моцна б‘ецца, так цяжка дыхаць? Гэта гара вычарпала яе апошнія сілы... Ногі зусім ня хочуць ісьці далей. Адпачыць, адпачыць, просяцца змучаныя плечы; адпачыць, адпачыць—ные ўсё зьнямажанае цела. А тут, як на спакусу, побач самой дарогі стаіць мяжовы капец, з старым пахіліўшымся крыжом.

— Вось, толькі на адну хвілінку — думае бабулька сядаючы—толькі перавяду дух, толькі хай заспакоіцца крыху сэрца, хай набяруць сілы зморaныя ногі... Да хаткі ўжо не далёка... Дайду... А тымчасам можа хто над‘едзе... цешыць сябе надзеяй.

— А зоры, ясныя зоры, усьцяж дрыжаць... Усё серабрыцца іх іскрыстым зьзяньнем малочная бялізна сьнегу. Бабулька нат' не агледзелася, як яе зьнямога перайшла ў драмоту і яна заснула. Адзін міг і ўсё перамянілася. Зьніклі дрыжачыя зоры, прапаў недзе белы сьнег. Яна нават ня чуе, што мароз ледзяніць у жылах кроў... Яна бачыць сябе не старой жабрачкай, а маленькай дзяўчынкай, поўнай радасьці і здароўя з вясёлым чырвоным, як краска маку, тварыкам; бегае па полі, па лугох, паміж зялёных кустоў, а сонца, вагністае сонца, цалуе яе снапамі сваіх залатых касуль. З вышы ліюцца на зямлю зычныя трэлі жаўрука...

— Падходзіць поўнач... Мароз усё мацнее і мацнее. Старая жабрачка моцна сьпіць. Ей, мусіць, цяпер зусім цёпла, бо яна ўжо ня туліцца ў сваю дзіравую вопратку. Уся яе фігура пахілілася крыху назад, а на заплюснутых вачох зіхацяць зорным блескам дзьве застыўшыя вялікія сьлязінкі.

— Мо' яна так глыбака задумалася?.. Не, яна сьпіць... сьпіць моцна, апошнім сьмяротным сном...

25. IX. 1928 г. М. Машара.

# Дзьве ваверкі.



У вялікім лесе, у дзюплах, жылі ў суседзтве дзьве ваверкі.

Адна з іх цэлы дзень зьбірала гарэхі, грыбы, шукала жалудоў і ўсё гэта насіла да сябе ў хату.

Другая была гультайка: цэлыя дні толькі і робіць, што скача з галіны на галіну і страшыць птушак у гнёздах, або сядзіць сабе і сьвішча. А калі захоча есьці, не задумваецца: тож улетку, каб ня было чаго е с ь ц і. Тут і жалуды з дубоў і шышкі з ёлак і соснаў, і гарэхі, карэньчыкі з розных тра-





ваў. Пагрызе таго, другога — і сыта. Зноў паскакала па дубох, па ёлках, па соснах...



Па дарозе схопіць жолуд, абгрызе яго вострымі зубамі, выгрызе ў сярэдзіне і зноў з дрэва на дрэва.



Працавітая вавёрка ўсё носіць і носіць да хаты спажыву. На зіму ўслала яна сваю хатку мохам, пёркамі і сухім лісьцьцём, каб было цёпла і мякка.



Зрапаравала і дзьверцы. Так прайшло і лета:



у аднэй вавёркі ў вясельлі, у другой у працы.

Прайшла і дажджлівая восень. Прыйшла зіма. Усё навокал агалела, ні лісьцьця, ні гарэшкаў. Холад, сьцюжа, сьнег навокал.

Сядзіць сабе ў дзюпле працавітая вавёрка; там ёй і мякка, і цёпла і сытна. Супакойна паліць сабе насагрэйку бяз страху і турботаў; у хатцы спажывы аж надта на ўсенькую зіму.





Ня так жывецца суседцы; вецер раскідаў дзьверцы яе хаткі і ўжо дзьме ў яе дуплё; яна-ж мокрая, галодная дрыжэла і мерзла цэлыя дні. Спрабавала пашукаць чаго небудзь у лесе, але

ўсё было засыпана сьнегам, — нічога не знайшла, адмарозіла толькі лапы. Засумавала наша вавёрка.

Так прайшоў тыдзень, другі. Схудала, а спажывы не знайшла. Вось тутака ўспомніла яна аб сваёй суседцы: „Спрабую я падыйсьці да яе. Тож яна шмат сабе прыпасла. Мо' падзеліцца яна са мной чым небудзь? А ўлетку я ёй усё зьвярну“...



Ціха пастукалася яна ў дзьверцы запасьлівай суседкі.

— Хто там?

Я... твая суседка.

Тая адчыніла, і калі ўбачыла схудаўшую і дрыжачую ад сьцюжы суседку, адразу ўсё зразумела.

— А... якраз на абед. Вось тут у моху сагрэй лапкі, а я падам табе шышак, жалудоў і гарэхаў... Ну сагрэлася? Цяпер еж, грызі. А я вось усё адна жыву, мне сумна. Хадзі жыць разам да лета, а потым разам будзем і працаваць, памагаць адзін аднаму“.

З таго часу абедзьве вавёркі зажылі разам.

З расейскага „Аксана“.

# Прыгоды аднэй жабы.

**Расказ праф. Ф. Мюльлера.**

Пераклаў А. В.

Усім ведама, што з наступленьнем восені птушкі зьбіраюцца стадамі і лятуць ад нас у цёплыя краі. Але што такім-жа спосабам перасяляюцца з сваей летняй аселасьці ў зімовыя памяшчэньні жабы і іншыя земляводныя, чуў ня кожны.

У адну, хмарную васеньнюю ноч каля вялікай саджаўкі за горадам дзеялася нешта дзіўнае. Нешта паўзло, шапацела, шлёпала, скакала. Гэта жыхары



саджаўкі перабіраліся з лецішча на зімовыя кватэры. Мітусьня цягнулася амаль ня ўсю ноч. Спачатку жабы паўзлі аднэй кучкай, потым распаўзьліся па суседнім полі, лузе і зарасьлях. Хто залез у пустую норку палёвай мышы, хто ў памяшчэньне крата, пад карэньне, у гушчар зарасьляў. Нашоўшы выгадны прытулак, жывёліна заснула да чароднай вясны. Жыхары гораду спакойна спалі і на'т не падазравалі-б аб дзеячымся пад аслонай ночы перасяленьні земляводных, калі-б недалёка ад саджаўкі не вялася каналізацыйная праца. Каб палажыць трубы ў зямлі, былі выкапаныя глыбокія равы. Дурныя істоты налезьлі ноччу ня толькі ў равы, але нат' і ў трубы. Раніцай пашлі туды людзі і ўбачылі множства мітусячыхся, няпрошаных гасьцей. Толькі дзякуючы гэтаму выпадку, і даведаліся аб нязвычайным руху перасяленцаў-паўзуноў.





Адна жаба аблюбавала сабе дзеля зімоўкі сад, прылягаючы да парку дому, засела ў шчэлцы паміж дзёрнам, закапалася глыбей і пачала лятуцець аб тлустых мухах і сакавітых сьлімаках.

Так прайшла зіма і веснавое сонца пачало прыграваць зямлю. Прачнулася жаба, адчыніла вочы і выцягнула

змучаная ад доўгай лежні члены. У норцы было цёмна і цесна, толькі ў маленькую шчэлку прабіваліся коскі сьвятла.

Паўсонная жаба сядзела і раздумвала. Раптам нехта яе пхнуў, нехта падняў пласт дзёрну, прыкрываўшы яе норку, а жабу так і абліло сонечным сьвятлом. Сын уласьніка саду стаяў з лапатай у руках і ўжо хацеў зрабіць брыдкай істоце сьмяротны ўдар сваей зялезнай прыладай, але надышоўшы сівы дзед яго затрымаў.

— Не, чакай, даражэнькі! Ты зьбіраешся забіць найлепшага нашага прыяцеля! Няхай сабе жыве і дае нам карысьць. Табе-ж яна дасьць яшчэ шмат прыемнасьці.

Запраўды, хлопчык і жаба хутка здружыліся. Хлопчык пераканаўся, што ня любленая за сваю брыдоту жаба — вельмі карыснае стварэньне; назіраючы-ж за ей, ён не адзін раз сьмяяўся над яе сьмешнымі выбрыкамі.

Патрывожаная жаба злосна надзьмулася, але ўсё сядзела ў сваім разбураным памяшчэньні, пакуль яе крыху не раскраталі канцом палкі. Тады яна скрыўджана зрабіла некалькі скокаў ды ізноў села. Цяпер пры ясным сонечным сьвятле, яе можна было добра разглядзець. Бясформнае бронзавае цела яе было пакрыта барадаўкамі, чырванаватыя вытарашчаныя вочы з цікавасьцю глядзелі на божы сьвет. Жываток яе за зіму значна паменьшыўся і яе страшэнна мучыў голад.

Раптам жаба ўздрыгнулася, вочы яе зазігацелі: яна ўбачыла муху, якая сядзела на калыханай ветрам сухой былінцы. Як кот, кралася яна да мухі. Мігнуў у паветры чырвоны язык і муха зьнікла ў шырокай, абведзенай белым шлякам ляпе. Жаба глынула сваю першую здабычу і ад задаволеньня заплюснула вочы.

Дзед загадаў унуку палажыць пласт дзёрну на старое мейсца, каб жабе было куды хавацца і каб яна асталася ў садзе. Хутка яны згубілі яе з воч і ня бачылі цэлы тыдзень.

Каля саджаўкі, з якой у восень выскакалі ўсе жыхары жыцьцё ізноў закіпела. Як яны выяжджалі, гэтак - сама ўначы і вярнуліся на сваё старое мейсца, а цяпер вечарамі задавалі вясёлыя канцэрты на беразе саджаўкі. У іх

вясёлым веснавым сьвяце прыймала ўдзел і наша жаба. Зігацючы сваімі рубінавымі вачыма, сядзела яна на беразе і вывадзіла свае тоны. Падчас яна люта кідалася на перашкаджаўшых ей другіх жабаў і пераварочвалася ў барацьбе белым брушкам угару. Зрэшта і сярод жыхароў саджаўкі былі важныя пэрсоны, брыдзячыяся таварыствам няпрыгожай жабы. Прыгожыя зялёныя жабкі проста ад яе адварачываліся. Жаба, аднак, роўнадушна переносіла пагарду, якую яна прывыкла бачыць і ад жывёлы, і ад людзей.

Удоваль нацешыўшыся хараством веснавых ночаў, жаба ізноў прыпаўзла ў сад. У ночы яна бегала па ўсім садзе і шукала ў розных кутках выгадных норак, у якіх яна праседжвала днём, аддаючыся салодкай поўдрамоце. Яна знашла сабе зацішны куточак нат' за межамі саду, у вузкай шчэлцы пад дзьвярмі дому. Яна сядзела і глядзела ўгару, а людзі праходзілі каля яе і на'т не падазравалі яе прысутнасьці. Толькі стары слуга падгледзіў раз, як яна хавалася ў сваю норку і расказаў мне аб гэтым, а то я, як і ўсе іншыя, праходзіў-бы, не заўважываючы яе. Часьцей, аднак, жаба знаходзілася ў садзе.

Усе жабы маюць звычай прытаіцца дзе-небудзь у шчэлцы зямлі ці пад камянём і сядзець там цэлыя дні, з цікавасьцю выглядаючы, каб бачыць, што навокал дзеяцца. Пры гэтым трэба адзначыць, што жаба амаль не заўсягды выбірае такое мейсца, дзе-б колер яе скуркі адказваў ахварбоўцы абкружаючых прадметаў. Такім чынам, найлепшае вока з трудом можа яе ўбачыць.

Істнуе пагляд, што стварэньне, званае хамелеонам, адно мае здольнасьці мяняць колер сваей скуры. Між тым шмат з нашых зямляводных маюць тыя-ж асаблівасьці, толькі іх зьмена ня так кідаецца ў вочы.

Калі наша жаба сядзела ў сваей землянай норцы, яе гузаватая скурка была землянага коляру, сядзе яна пад вялікі зялёны ліст — яна здаецца аліўковай; у кучы сухога лісьця — яна набывае руды колер. Ахварбоўка скуркі жабы мяняецца таксама, калі яна раззлуецца ці спалохаецца і г. д.

Пасяліўшыся ў садзе і бачачы, што яе ніхто не чапае,

жаба ўзялася за паляваньне на мухі і жамяру. Хутка яна адгадавала сабе прыстойны жыватом. Аб стройным стане, які ў яе быў зімой, не асталося і ўспаміну. На паляваньне яна выхадзіла з надыходам змроку.

Сьмешна было глядзець, як, намеціўшы сваю здабычу, яна выпроствалася каля сьцяны ці куста. Адзін мамэнт і нешчасьлівая ахвяра зьнікала ў ляпе.

Мы сталі ей прынасіць жучкоў, мух, лясных клапоў, казельчыкаў; яна брала іх з рук. Толькі вялікія матылькі з жорсткімі скрыльлячкамі ей не смакавалі. Пасьля некалькіх неўдачных спробаў глынуць такога матылька, яна рашыла, што мы прыносім ей назлосьць, стала злосна адварачывацца кожны раз, як мы ей прапанавалі нялюбую страву.

Раз хлопчык злавіў касматую гусьвіцу шаўкавічнага чарвяка і прынёс яго жабе. Яна зьдзіўлена глядзела на гэтую касматую істоту; але калі гусьвіца закраталяся, жаба шпарка высунула язык і заплюшчыла ад здаволеньня вочы, думаючы, што яе глынула. Запраўды-ж гусьвіца сядзела на сваім мейсцы: мусіць валаскі, якія пакрывалі яе цела, перашкаджалі жабе падхапіць яе сваім ліпкім языком. Адчыніўшы вочы і ўбачыўшы перад сабой гусьвіцу, жаба падумала, што гэта другая ды ізноў высунула язык, каб яе падхапіць, але ізноў без рэзультату. Так досьць доўга цягнулася, пакуль нарэшце гусьвіца ня скруцілася ў клубочак, і тады ўжо жабе лёгка было яе глынуць.

(Працяг будзе).



М. ДУБОК.

# Сталоўкі для птушак.

I.

Сымонка—сямігадовы хлапчук прабудзіўся сёньня досыць рана, бо яшчэ толькі пачало сьвітаць. Як мог, апрануўся і вылез з-запечка. Маці ўжо даўна ўстала: яна распаліла печку і пякла аладкі. Старэйшы брат Сымонкі, Янка ўжо даўна пашоў у школку, бо да яе было вярсты са тры.



— Чаго ты так рана спароўся? Трэба было яшчэ спаць! — запыталася маці.

— Ты, мамка, ня ведаеш, што я задумаў? — загаманіў ён, таемна міргаючы вачыма.

— Што-ж ты задумаў?

— Ого, не скажу. Як зраблю, дык пабачыш.

Маці больш ужо ў яго ня пыталася, бо занялася сваімі справамі.

А Сымонка ўзяў нож, пук лучыны ды сеў у куток, каб яму ніхто не перашкодзіў.

Ен шчапаў лучыну і рэзаў тонкія дручкі, даўжынёю на дзьве з паловаю пядзі.

Думка злавіць сіняка ў яго круцілася ўжо даўна, але ня ведаў як; толькі вось учора даведаўся, што за шчасьце!

Настругаўшы добрую горбачку дручкоў, ён адкінуў нож у бок і, нешта бармочучы пад нос, пачаў складаць, падобна таму, як складаюць студню. Калі такім парадкам атрымаўшаяся клетка мела дзьве пядзі вышыні, дык па кутох перавязаў вяровачкамі і, такім чынам вышла скрыначка.

Нічога нікому ня кажучы, пашоў ён на панадворак, недзе з пад сьнегу выкапаў шырокую дошку, з якой зрабіў века. Цяпер на чарзе стала заданьне зрабіць „лыжачку“. Гэта невялічкая трэсачка, на адным канцы якой выдзеўблена ямачка.

„Цяпер дастаць толькі канопляў“—думаў Сымонка.

— Мамка, дай жменьку канопляў?

— На што яны табе?

— Потым пабачыш! Дай! — прасіў.

— Калі ня маю часу. Ідзі сам пашукай у каморы.

Сымонка мігам скочыў і знайшоўшы клінок з канаплямі, усыпаў дзьве жмені ў кішаню.

Пасьля ён дастаў смалы і прысмаліў да „лыжачкі“ некалькі канаплін.

„Ну, гатова“—і, забраўшы ўсе прылады, вышаў на панадворак.

Быў марозны дзень. Хоць сонца і сьвяціла, але нічагусенькі ня грэла. Пад нагамі скрыпеў сьнег.

Сымонка занёс на сьметнік свае прылады. Ен ведаў, што толькі тут зімою птушкі могуць знайсьці штоколечы зьесьці. Гэта ён паставіў клетку на сьнег і прымацаваў так „лыжачку“, што як толькі на яе сядзе птушка, дык века ападзе, замкнуўшы бедную нявольніцу.

Пасыпаўшы навокал канопляў, ён самаздаволёны, з вераю, што сіняк такі пападзецца, вярнуўся ў хату і сеў ля вакна, каб наглядаць.

— Ідзі есьці Сымонка!

— Не хачу!—і ўталопіўся ў вакно.

Маці, аднак, наліла яму заціркі, ён-жа не хацеў есьці за сталом, але ўзяў міску на вакно, каб можна было ўглядацца.

II.

Наступала зімовая, марозная раніца. Усе дрэвы былі пакрыты белым, вельмі прыгожым інеям. Было марозна вельмі.

З стага сена, які стаў каля невялічкага гуменца, пачалі вылятаць з ціхенькім піскам птушкі. Па іх вопратцы, лёгка можна было пазнаць сінячкоў. Галодныя, зьмёрзшыя яны пераляталі з гумна ў гумно. І, як толькі яны растапырвалі свае маленькія скрыльлі, мароз ахопліваў іх і, як ціскамі, душыў маленькія, кволыя грудзі.

Блага ім было жыць! Холад, голад. Дзе тут дастаць хоць адну крошачку, хоць адно зерня канаплянае? Усё па-

завевала сьнегам; кругом белыя прасторы. Астаюцца толькі сьметнікі каля людзкіх хатаў, дзе можна пажывіцца тым, што выкіне гаспадыня.

Дык вось, адзін невялічкі гурток пяць, шэсьць сінячкоў пырхалі ад двара да двара, ад сьметніка да сьметніка. Прылятуць кучкаю, сядуць і давай ножкамі грабсьці, раскідаць у бакі сьмяцьцё і сьнег. Як пабачаць крышку хлеба, вось і сьнеданьне! Ці-ж шмат ім трэба?

Гэтак пералятаючы і па чарзе адведываючы кожнага гаспадара, яны прыляцелі да Сымонкавага сьметніка. Аднак ня спусьціліся на яго. Што-ж такое?!

А вось: ніколі нічога на гэтым сьметніку ня было, а гэта вось раптам нейкая падазроная рэч стаіць!

Перапужанымі вочкамі паглядалі яны са страхі хаты. Але рэч, якая стаяла на сьметніку ня рухалася, не ўцякала, а стаяла спакойна на адным мейсцы.

„Чаго тут баяцца“! — падумаў самы адважны сінячок, які сёньня не знайшоў ніводнае крошкі і яму вельмі хацелася есьці. Сьмела зьляцеў ён з страхі і, зрабіўшы некалькі скокаў у паветры, спусьціўся на сьметнік і бачыць... цэлыя сотні канаплінак, самых лепшых прысмакаў навокал рассыпана. Што за находка?! І, доўга не думаючы, давай церабіць.

Другія сінячкі сядзелі, сядзелі і, калі пабачылі, што з адважнай птушкай нічога не сталася, давай па адным спушчацца і смачна зьядаць.

Самыя-ж трусьлівыя яшчэ не адважваліся, але нарэшце апошнія два зьляцелі на сьметнік. Аднак, на іх бяду, ніводнага зярняці не засталося. Засаромленыя яны пачалі шукаць, бегаць у той час, як першыя наеўшыся паляцелі назад на страху.

Астаўшыяся як не шукалі, так і нічога не маглі знайсьці. Тагды адзін заўважыў, што ў скрынцы ёсьць зярняты. Скочыў гэта ён на бераг сьценкі, а адтуль у сярэдзіну і давай прагавіта церабіць канаплі. Другі-ж, за яго прыкладам, таксама сеў на беражок, але ня скочыў у сярэдзіну, бо пабачыў тут, бліжэй, на „лыжачцы“ і бліскаючы вачыма, скочыў на яе.

Але раптам... бах! „Лыжачка“ сарвалася і века накрыла абодвух. Хацелі ўцячы, але... моцна зрабіў Сымонка клетку.

III.

— Мамка! Папаліся! — крыкнуў Сымонка з усей сілы і скочыў ад вакна, але загарнуўшы рукою міску, а нагою зачапіўшыся за тапчан, грымнуў на падлогу і міска звалілася на яго, абліваючы з ног да галавы заціркай.

— Што ты робіш? Вось скараньне Боскае гэтае дзіця! — з крыкам кінулася ратаваць яго маці. Але Сымонка ўжо сам схамянуўся і пачаў ачышчацца ад заціркі.

— Мамачка! Дальбожачкі папаліся!

— Ха-ха-ха!—сьмяялася з яго маці.

— Пасьпееш! Не ўцякуць!—і хацела яго, абцерці, але дзе там! Ен ужо шмыгнуў на панадворак.

— Ідзі апраніся! Замерзнеш! Здурэў, ці якое ліха! — і схапіўшы на рукі, панесла ў хату.

— Мамачка! Дзьве! Дзьве! — крычаў і вырываўся Сымонка.

Ледзьве яго апранула маці, як ён ізноў ужо быў на панадворку.

— Але як тут дастаць?—бедаваў, бо баяўся, што ўцякуць.

А сінячкі перапужаныя біліся аб сьценкі, шукаючы выхаду. Сымонка адзін канец трохі падняў, падсунуў руку і пачаў там лавіць. Сінячок, кідаючыся з боку ў бок, папаў у руку. Ен прыціснуў яго і перакінуў клетку. Адзін быў у руках, а другі весела паляцеў.

— Ах, уцякла!—крыкнуў Сымонка, пазіраючы ў сьлед.

— Але хопіць для мяне аднэй!—і ён папёр у хату.

— Мамачка, глядзі якая прыгожанькая! Якія ножкі, скрыльлячкі.

— Забаўляйся сабе! Ня маю часу з табой займацца.

Тымчасам у хату ўвайшоў старшы брат—Янка: ён вярнуўся з школы.

— Глядзі якую я птушку злавіў!

— На што ты яе мучыш? Пусьці! Дзе ты яе злавіў? А там на сьмятніку!

— Дай сюды!—і ён адабраў птушку, выйшаў на двор і выпусьціў яе на волю.

А Сымонка пастаяў, пастаяў ды як зараве на ўсё горла, як цялё.

— На што ты яго чапаеш?—заступілася маці.

— Няхай ня мучыць бедных птушак! І ты мама яму яшчэ на гэта пазволіла? Хадзі сюды Сымонка! Хадзі! — ласкава загаварыў ён.

Сымонка нясьмела падыйшоў да брата.

— Ты ня плач! Я цябе навучу нечага лепшага! — і ён выцер яму сьлёзкі.

— Ты вось што зрабі.

— Што?—праз сьлёзы запытаўся Сымонка.

— Сталоўку для птушак! Гэтак робяць усе добрыя дзеці, якія шкадуюць птушак. Сінячком цяпер вельмі дрэнна жывецца. Ім і холад і голад. Дык ты зрабі дошчачку, насып на яе крошачак, што астаюцца пасьля ежы і пастаў на дварэ. Сінячкі знойдуць і будуць вельмі рады. Будуць сьмяяцца так вось, як ты!

Сымонка мімаволі ўсьміхнуўся.

— Ну, а цяпер на табе кніжку!—з гэтымі славамі даставу ,,Зорку"—лемантар,—вучыся!

Малы забыўся пра ўсё, пачаў лістаць кніжку і прыглядацца да розных малюнкаў.

IV.

Назаўтра Сымонка зрабіў столік і кожны дзень карміў птушак. Сьпярша сінячкі адносіліся недаверчыва, але пабачыўшы, што ім нічога не пагражае, з смакам галодных елі крошкі. Цераз тыдзень каля Сымонкавай хаты лёталі ўжо цэлыя сотні птушак. Якіх там ня было: сінячкі, вераб'і і шмат іншых прыляцеўшых нават з лесу. Яны весела шчабяталі, бо ім добра жылося, іх выратаваў ад галадоўкі малы Сымонка.

Мала таго, за прыкладам яго пачалі рабіць сталоўкі для птушак іншыя хлапцы, яго калежкі. У вёску з цэлай

ваколіцы пазьляталіся крылатыя жыхары. Вёска зрабілася птушыным раем.

Але ня доўга ім прышлося карміць. Прыйшла вясна, паказаліся мухі, мошкі — корм самы лепшы для птушак, і вось узяліся яны іх церабіць. Птушкі не хацелі вылятаць з гэтай вёскі: яна ім была дарагая, бо тут жылі іх найбольшыя прыяцелі. У садкох парабілі яны сотні гнёздаў. Праз цэлы дзень вёска тонула ў птушыных сьпевах.

— Што гэта зрабілася сёлета? — гаманілі сяляне, седзячы на прызьбе аднэй хаты.

— Тыя гады, дык ня было як абараніцца ад мух, камароў, ды розных іншых мошак, а сёлета, як рукою зьняло!

— Але—кажа другі — і сад цяпер ядроны як ніколі, і на капусьце чарвы няма! Ну, проста, дзІва!

— Ох,—уздыхнула адна баба—усё воля боская!

— Праўда, праўда!

— — — — — — — — — — — — — — —

— Дарагія дзеткі! Гэта ўсё зрабілі птушкі! Гэта іх падзяка за сталоўкі Сымонкі і іншых хлапцоў.

Дык можа і вы заложыце гэтыя сталоўкі?

Карысьць ад іх відавочная.





# Як Міхась забаўляў Алёнку.

Якая бяда здарылася з маленькай Алёнкай: яна бегла па надта гладкай падлозе, упала і так зьбіла сабе ножку, што сама не магла ўстаць. Мама перанясла яе на пасьцель і паслала па дохтара. Алёнцы завязалі нагу і сказалі доўга ляжаць і ня рухаць хворай нагой. Яна ня ўмее чытаць, а лялькі і малюнкі ўжо надакучылі ёй даўно. Мама мае многа працы і ня можа ўвесь час сядзець у сваей хворай дачушкі, і Алёнцы было-б надта сумна, каб у яе ня было старэйшага браточка Міхася. Яму ўжо 8 гадоў, ён надта любіць сястру і заўсёды прыдумвае і робіць дзеля яе ўсё новыя цацкі. Мне хочацца расказаць вам, як ён іх робіць; можа, хто небудзь з вас таксама займецца гэтым.

## I. Вуджаньне рыбы.

У кніжцы з абразкамі Міхась знайшоў некалькі малюнкаў рыбак. Ен перарысаваў іх на паперу па два малюнкі кожнае рыбы, але ў адваротны бок, размаляваў, наклеіў на таўстую паперу і выразаў; пасьля ссукаў з ніткі шнурочкі і наляпіў іх каля рота, маленькімі пятлямі. Зысподу кожнае рыбы ён падклеіў другі малюнак яе. Зрабіўшы такім чынам 20 рыбак, Міхась прыгатаваў дзьве невялічкія вудачкі. Заместа кручкоў ён навязаў сагнутыя шпілечкі. На таўсты аркуш бібулы Міхась наклеіў белую паперу і фарбамі намаляваў на ёй возера. Гэты аркуш падвесілі да Алёнчынай пасьцелькі; у возера пусьцілі рыбак, і Міхась з Алёнкай лавілі іх вудачкамі. Гульня надта спадабалася дзяўчынцы і яна часта бавілася гэтай цацкай.

## 2. Дамовыя птушкі.

Міхась здабыў вялікі кавалак кепска выпечанага чорнага хлеба і наляпіў з яго курачак, гусак і качачак. Заместа ног ён уставіў кавалачкі дроцікаў. Пасьля ён назьбіраў пер'ячка, нарэзаў яго, абмазаў птушачак сталярскім клеем і абляпіў пер'ячкам. Галовы было цяжка аблепліваць, але мама памагла зрабіць гэта. Яна ўставіла заместа вочак пацярачкі, а пеўню прыклеіла з чырвонага сукна грэбень. Міхась з таўстое паперы зрабіў катух, паставіў яго на дошцы, кругом абгарадзіў плотам з шыпулікаў. Адну Алёнчыну ляльку паставілі ля катуха; яна павінна была пільнаваць птушак. Міхась знайшоў малюнак лятучага каршуна, зрысаваў яго, наклеіў на бібулу і працягнуў праз яго нітку. Часам гэты каршун налятаў на курэй і тады Алёнка падымала страшэнны крык і тым адганяла ворага.

## 3. Паляваньне.

У канцы Міхась надумаў зрабіць такую цацку, над якой прышлося многа папрацаваць і яму і Алёнцы. Ен выбраў з сваёй кніжкі малюнкі многіх лясных зьвяроў: зайцаў, лісічак, дзікоў, ваўкоў і мядзьведзёў; ён перазьняў іх на паперу, размаляваў, як умеў, наклеіў на ня надта грубую паперу і даў Алёнцы вырэзваць іх. Сам ён нарабіў дзеравяных падставак для ўсіх зьвяроў і заняўся прыгатаваньнем дрэваў. На гэта ён нарэзаў многа яловых і хваёвых лапак і папрыбіваў іхнія канцы да дзеравяных дошчачак. Пакуль дзеці працавалі над гэтай цацкай, Алёнчына нага ўжо настолькі паправілася, што дохтар дазволіў ёй сядзець на крэсьле, ёй толькі нельга было апірацца на хворую нагу. Перад Алёнкай паставілі стол, на якім яны з Міхасём парастаўлялі дрэвы, каб было падобна на лес і паразьмешчвалі ў ім зьвяроў. Міхась прынёс пісталет-забаўку і дзеці пачалі пачарзе страляць. Вось была задаволеная Алёнка, калі ёй удалося зваліць стрэлам ваўка; яна аж заляскала ў далоні. А які быў задаволены Міхась, калі дохтар сказаў яму, што ягоная сястрычка выздараўлівае так хутка дзеля таго, што ня нудзіцца, а праводзіць весела час сваёй хваробы.

З расейскага пераклала А. Ш.



# Працы нашых чытачоў.

## Калісь і цяпер.

Былі цёплыя хвіліны,
Лес адзеўшыся стаяў,
Салавейка нам з галіны
Песьні пекныя пяяў.

Жыта ў полі расавала
Працаваў на ніве плуг;
Песьню шчасьця ўсё пяяла
Красаваў зялёны луг.

А цяпер гуляе вецер,
З дрэва лісьця пазрываў
І мароз у ціхі вечар
Рэчкі лёдам акаваў.

Сумна жаляцца бярозы
І глядзяць кудысь удаль,
З вачэй капаюць мне слёзы
Сэрца сьціснуў нейкі жаль.

5.I 1929. **А. Арэхва.**

# На Палесьсі.

(Глянь кніжку 3 і 4 з 28 г. і 1 з 29 г.).

— „А вось і наша вёска—сказаў адзін з хлапцоў з нашай кампаніі.

Перад намі ў нейкіх пяцісот шагах была вёска. А дзеля таго, што яна ляжала ўнізе, на берагу ракі Цны, а мы йдучы ўзыйшлі на невялічкі ўзгорак, дык маглі акінуць вокам яе ўсю. Насамперад заўважылі мы яе вялічыню, пасьля яе будову. Пабудавана яна інакш за нашу вёску і за суседнія нашай. Мае дзьве вуліцы; даўжыня яе амаль раўняецца шырыні, чым вельмі рэзка адрозьніваецца ад вёсак менскай краіны, якія пабудаваны абапал аднэй вуліцы. Вёска Малькавічы займае ні то квадратны, ні то прастакутны кавалак зямлі.

Увайшлі мы ў вёску. Вуліца, па каторай ішлі, была вельмі гразкая; абапал яе былі паложаныя кладкі з жэрдак для людзей, на якія аднак паляшукі не зварочвалі асаблівай увагі.

— „Чаму вы не паложыце сабе добрых хаднікоў? То-ж такая гразь на вуліцы і вы яе носіце сваімі нагамі ў свае-ж хаты — абярнуўся мой дзядзька да нашых праважатых.

— „А навошта нам нейкія там хаднікі! Калі мы іх паложым, дык у нас будуць сушэйшыя ногі; калі-ж у паляшука не хлюпаціць у лапцёх, дык ён чуецца нездароў, яго баляць ногі. Такая ўжо наша прывычка—адказаў мужчына гадоў пад сорак.

„Ды ці ўсьцяражэсься ад макрыні тут на Палесьсі — дадаў хтосьці другі.

— „Макрыня, скажу я вам мае браткі, з аднаго боку і карысна для паляшука. Каб было ў нас суха, дык мы ня пасьпявалі-б плясьці сабе лапцёў, а ў макрыне яны значна даўжэй носяцца—цягнуў сваё першы паляшук. А лапці карысны для нас тым, што іх можна добра ўшнураваць абаромі і яны не адстануць у цябе з нагі ў найбольшай гразі, а каб у такую гразь залез у ботах, дык ужо разьвітайся з імі. З ботамі большы хлопат і большыя выдаткі на іх.

Зрабіць лапці нам нічога не каштуе: усё можна зрабіць з лазы ды ліпы, нават аборы, глядзеце якія робім з лазы"— і пры гэтым ён паказаў нам сваю нагу абутую ў лапаць. Праўда, заместа скураных абораў у яго былі вельмі прыгожа зьвіты аборачкі з лазовага лыка.

Быў вечар. Сонца хавалася і прабівала сваімі апошнімі касулькамі лісьцёвыя ды хваёвыя гушчары лясоў. Як паволі хавалася сонца за палескія балоты ды лясы, так-сама паволі заціхала ўсё іх жыцьцё.

Варочалася з пашы жывёла. За ёй ішлі з належнай павагай пастухі, нясучы поўныя бярэмі лапцёў ды лыка. Мяне зьдзівіла тое, што на Палесьсі жывёлу пасуць дарослыя мужчыны ды жанчыны, а гэта дзеля таго, што дзеці могуць заблудзіцца ў лесе. Выганяюць у іх каровы а 6-8 гадзіне раніцы, а прыганяюць дамоў, калі сонца зойдзе. У нас-жа выганяюць з усходам сонца, прыганяюць а 10-11 гадзіне і выганяюць другі раз а 13 гадзіне і пасуць ужо да захаду сонца. Жывёлу ў нас пасуць дзеці ад сямі да пятнаццаці гадоў. Гэта вельмі дрэнна адбіваецца на іх здароўі, бо дзецям у гэтым веку трэба гуляць ды вучыцца. За вясну, лета і восень дзіця начыста зацягаецца: устае рана а 3 гадзіне, а ложыцца спаць а 21. У паляшукоў гэтага німа і гэта можа галоўная прычына, што паляшукі такія здаровыя і доўга жывуць.

Мы ўжо ўвайшлі ў вёску.

Дзядзька запытаўся ў нашых праважатых, дзе жыве яго знаёмы.

— „На другой вуліцы, вось там яго хата. Ідзеце праз гарод, будзе бліжэй"—сказаў адзін з іх.

— „Я туды якраз іду, дык магу вас завясьці"—сказаў адзін з хлапцоў. Мы пералезьлі плот і пайшлі гародам.

Паляшуцкія гароды прадстаўляюць сабой высокія палоскі зямлі, наабапал якіх ёсьць канаўкі для сьцёку вады. Гэтыя разоры-канаўкі даходзяць да пояса даросламу чалавеку. Варыва на градах выглядала вельмі добрае, ня гледзячы на раньнюю пару.

Прайшоўшы праз гарод, мы апынуліся якраз перад хатай дзядзькавага знаёмага. Калі мы пераступілі парог

яго хаты і ён нас убачыў, дык вельмі быў задаволены і прыняў нас, як ляпей ня трэба. Хата яго, не гледзячы на балота на панадворку, была чыстая. Гэта быў досыць вялікі пакой, у правым куце, якога ад дзьвярэй стаяла звычайная беларуская печ; на покуце—стол, у трэйцім куце—ложак, а чацьвёрты кут служыў на склад для жаночых гаспадарскіх прыладаў. Тут-жа стаяла вядро вады.

Гаспадар хаты, чалавек гадоў пад 50, нізкога росту, вельмі моцнага целаскладу. Яго вонкавы выгляд казаў, што ён ня так лёгка паддасца якой-небудзь хваробе.

Жонка была трохі малодшая за яго, амаль такога самага росту, а ў сіле нічуць не ўступала свайму мужу. Дзяцей яны ня мелі. Гаспадыня згатавала нам вячэру і ня ўсьпелі мы яе зьесьці, як прыйшло некалькі маладых і старых паляшукоў. Паміж імі быў вельмі старэнькі паляшук, зусім сівенькі. Ен быў сярэдняга росту, меў даўгую, сівую бараду. Адзеньне на ім, як і на кожным старым паляшуку, было вельмі простае: складалася яно з даўгіх, белых нагавіцаў і з даўгой, белай кашулі, падпяразанай пояском свае работы. Кашуля на грудзёх ня была добра зашпілена, і пазваляла бачыць яго загарэлае ад сонца цела. На нагах ён ня меў ніякай вобуві. Ня гледзячы на тое, што яму падбіралася пад восьмы дзесятак, ён быў яшчэ здаровы і, як відаць было па яго расказу, працаваў нараўні са сваімі сынамі ды ўнукамі. Гутарка ў нас цягнулася нейкіх дзьве гадзіны. Расказвалі яны нам пра сваю гаспадарку, пра свае лясы ды наагул пра сваё жыцьцё. Цікава расказвалі пра свае палянкі паміж балатоў. Як дзікі не даюць пасеяць на іх бульбы, як на іх палююць і многа, многа чаго можна было тут пачуць. Расказвалі, як адзін мядзьведзь унадзіўся ў вулей з пчоламі, які стаяў на дубе ўлесе. Як гаспадар гэтага вульля ня мог мядзьведзя адстрашыць і як у канцы-канцоў ён прымайстраваў каля вульля стрэльбачку, якая яго і забіла.

Мы так гутарылі-б і доўга, але ноч напамінала нам, што пара ўжо йсьці спаць.

Гаспадар запытаўся нас, дзе хочам спаць: у хаце, ці ў гумне, і пачуўшы адказ, што ў гумне, завёў нас туды. Забраліся мы на салому і тут утапіўшыся ў яе вельмі смачна заснулі.

Прабудзілі нас коскі сонца, якія назойліва ўбіваліся ў гумно праз маленькія шчэлкі ў сьценах і дзьвярох. Гаспадар устаў раней за нас і цяпер, калі пачуў, што мы заварушыліся, прыйшоў запрасіць нас на сьнеданьне. Пасьля сьнеданьня гаспадар разьвітаўся з намі і пагнаў каровы. Мы-ж асталіся яшчэ на некалькі гадзін і за тэты час разглядалі вёску.

Пасьля пятнаццатай гадзіны мы пачалі зьбірацца да цягніка, якім меліся вярнуцца назад на станцыю Люсін. Разьвітаўшыся з гаспадыняй і падзякаваўшы ёй за гасьціну, мы пакінулі вёску Малькавічы і пайшлі на станцыю. Цягніка нам ня прышлося доўга чакаць і пасьля нейкіх 20 мінут мы ехалі ім назад.

Янка Патаповіч.

(Далей будзе).

# Насачыў.

Ты ведаеш? Пытаўся Александар свайго таварыша Юрку. Не, нічога ня ведаю! Кажы хутчэй, — з цікавасьцяй пытаўся Юрка. Вось, брат, калі загуляем, дык загуляем, хваліўся Александар, я насачыў курыцу і больш як дваццаць штук яек пад ею. Кажы хутчэй дзе? пытаўся Юрка.

„У Ігната", ціха прамовіў Аляксандар, баючыся каб хто ў гэты час іх не падслухаў.—Ты прыдзі заўтра да мяне і мы пастараемся іх прысвоіць, казаў далей хлопчык. Але-ж памятай, каб нікому не казаў! Глядзі! Папераджаў Александар свайго найлепшага таварыша Юрку.

Час быў рабочы. Усе былі ў полі. Засталіся ўдома малыя ды старыя, каторыя не маглі памагаць у працы. Дзень быў ясны. Сонца сьвяціла, і агравала сваімі яснымі праменьнямі галовы бегаючых па вуліцы малых дзяцей. Прыгнаўшы з раніцы каровы, Юрка пайшоў да Александра, каб ісьці па тыя яйкі, пра якія яны ўчора гаварылі.

Хлапцы доўга сачылі за гаспадаром, пакуль ён вы-

ехаў з панадворка ў поле. Як толькі гаспадар выехаў за вёску, тады хлапцы сьмела пабеглі на панадворак, ведаючы, што нікога няма.—Ты будзеш пільнаваць, каб хто не нарваўся, а я палезу па яйкі,—казаў Александар да Юркі. Толькі глядзі: як толькі хто будзе ісьці, то зараз сьвісьнеш. І сам пашоў. Дастаў ключа ад хаты, каторы ляжаў у садку ў канаплях і адамкнуўшы хату палез па яйкі. Залез на хату (бо курыца была пасаджаная, выседжваць кураняты, на хаце) і доўга думаў над тым: ці ўсе забіраць, ці не? У канцы надумаў пакінуць адно яйко, дзеля таго, каб курыца ня злазіла з гнязда і каб ня так хутка даведалася гаспадыня.

Забраўшы яйкі Александар злез з хаты замкнуў яе, а ключа палажыў ізноў-жа на тое месца, дзе ўзяў.—Ну, а цяпер-жа хутчэй нясем іх да Тараса *) і набярэм за іх папяросаў, тытуну і сярнікоў — казаў Юрка аблічыўшы здабычу.—Вось, ужо ў полі за каровамі пакурым, дык пакурым,—з радасьцяй гаварыў Александар да свайго таварыша. Хлопцы доўга ня думаючы панесьлі яйкі да Тараса на тытун. Крамнік нат' ня пытаўся ў іх дзе яны іх узялі, бо ведаў ужо, дзе бяруць гэтакія хлапцы...

*
* *

Хлапцы ў полі пасуць каровы.

— Цяпер мы тут ляжым, курым і ўсё добра, а што-ж мы будзем гаварыць, і рабіць, калі дазнаюцца?—разважаў Юрка.—Глупста! Кінь думаць аб гэтым,—супакойваў Александар свайго таварыша. Нічога ня будзе. І ведаць ня будуць хто забраў.

— Тымчасам на другі адзень пасьля таго, як хлапцы забраці яйкі, жонка Ігната ўбачыла, што курыца зьляцела з хаты, і ня хоча болей садзіцца. Што такое, падумала сабе яна. Можа яна галодная, ці што, шуляк яе ведае.—Злавіўшы курыцу гаспадыня панясла яе на гняздо. Глянула: а там ні яечка! Было адно, каторае пакінуў Александар і тое мусіць кот выпіў, як курыцы ня было. „А гэта што“. Дзе яны маглі дзявацца? Думала сама сабе гаспадыня, сто-

*) Тарасам называўся крамнік.

ючы над пустым гняздом. І чуць не заплакала ад жалю, аж курыцу з рук выпусьціла.

На трэці дзень гаспадар даведаўся праз другіх хлапцоў, хто забраў яйкі.

Тытун яшчэ ня ўвесь быў скураны.

Тады жонка Ігната забрала гэты застаўшыся тытун і павяла вінавайцаў да Тараса, каб навясьці спраўку і забраць назад сваю ўласнасьць.

Крамнік не хацеў зьвярнуць яек, але ў канцы мусіў аддаць, забраўшы тытун.

— — — — — — — — — — — — — — —

А што, ці ня праўду я табе казаў, лежачы пад кустом у полі, што гэта так і будзе?... — Казаў Юрка Аляксандру.

— Шмат ужо часу прайшло з тае пары, але і цяпер яшчэ, як хто папытаецца у гэтых хлапцоў „ці моцныя былі папіросы“ то яны чырванеюць ад сораму, як вішанькі і маўчаць.

Вільня, 1928 г. Салавейка.

## Удзячнасьць дзікага.

Была завея. Халодны паўночны вецяр свабодна гуляў па разлеглых палёх Канады і, нясучы з сабою цэлыя хмары халоднага сьнегу закрываў імі божы сьвет. У гэту пару падыйшла пад хату аднэй францускай калёніі (блізка места Мантрэаль) змучаная вялікай дарогай індыянка.

Вопратка на ёй была з сіняга сукна, пояс і прыбраньне галавы нашытыя featured рознакалёрнымі каменчыкамі і прыстрояныя пёрамі; на нагах мела чаравікі прыбраныя ракавінкамі. У прыборах галавы мела азнакі, па якіх можна было пазнаць, што гэта жонка начальніка нейкага племя чырвонаскурых. Адзежа яе была зношана і німагла даць у гэтую пару беднай жанчыні патрэбнага цяпла. Індыянка трымала ў руках калыску, кусок дошкі памаляванай на чырвона і зялёна, да якой было прывязана маленькае дзіцятка. Па-

стукаўшы ў дзьверы француcкага асадніка, індыянка расказала вышаўшаму гаспадару, што муж яе быў пасланы ад свайго племя да „Блядых твараў“ (так называюць індыяне людзей белай расы) ў аднэй важнай справе, і яна пашла з ім. У час гэтай падарожы муж яе памёр на чужой старонцы і яна астаўшыся адна з дзяцём нямае з чым вярнуцца да сваіх. І далей прасіла гаспадара пусьціць яе пераначаваць, бо ноч падходзіць і мароз што раз мацнейшы, а яна змучана дарогай, холадам і голадам ня можа далей ісьці. Але багаты асаднік просьбаў яе нехацеў слухаць і загадаў ёй ісьці сабе далей. Ужо бедная матка адходзіла з сваім дзіцяткам, калі з дому выбягла 12 гадовая дзяўчынка, а падышоўшы да індыянкі, літасьціва сказала;

— Бедная, мусіш адходзіць бяз ніякай помачы, але прымі ад мяне хоць гэтую раду: не далёка ад гэтуль ёсьць начлежны дом, зайдзі туды, знойдзеш там прытулак на нач для сябе і свайго дзіцяці. — Гэта кажучы, паказала жанчыні дарогу і ўсунула ў руку залатую манэту. Індыянка не адважывалася браць, але дзяўчатка сказала:—Нябойся, вазьмі, гэта мае грошы, я сама іх зарабіла і на мяне за гэта ніхто нябудзе гневацца.

— Вялікі Дух хай табе за гэта вынаградзіць, мая ты добрая, маленька сястронка!—дзякавала праз слёзы індыянка. Дзяўчынка пажагнала індыянку і прасіла пазволіць ёй пацалаваць дзіцятка.

З таго часу прайшло больш як дваццаць гадоў. Багаты бацька літасьцівай дзяўчынкі страціўшы гаспадарку памёр.

Дачка яго, гэта вядомая нам дзяўчынка, выйшла замуж за француза і пераехала ў Парыж. Але муж яе хутка памёр і яна асталася адна ў цяжкіх [варунках жыцьця. У адзін дзень—было гэта ў 1885 годзе—збяднеўшая жанчына сядзела ў сваім пакойчыку і сьпяшаючы шыла; хацела яшчэ сёньня кончыць работу і аддаць яе да крамы, каб атрымаць плату—свой адзіны заробак на пражыцьцё. Раптам нехта пастукаў у дзьверы і вайшоў малады мужчына, не эўрапэйскай расы.

— Здаўна ўжо шукаю паню—сказаў — ваша прозьвішча здаецца R...

Запытаная адказала, што так.

— Вальмі цешуся, што нарэшцi паню нашоў—гаварыў далей.—Я сын тае індыянкі, каторай некалі, будучы яшчэ дзяўчынкай, далі Вы дапамогу ў фальварку пад Монтрэаль, а я тое дзіцянё, каторае тады пані пацалавала. Бяз твае помачы мы напэўна згінулі-б. Цяпер я ўжо грамадзянін ангельскі і вяду значны інтэрас ў банку; маю даволі вялікі маёнтак і жыву добра. Маці мая паміраючы, загадала мне найсьці паню і падзякаваць асабіста. I вось няхай пані пазволіць вярнуць ёй пацалунак, каторы дала мне боляй дваццаці гадоў таму назад. Сказаўшы гэта, пацалаваў з удзячнасьцяй руку пані R. і сказаўшы: да пабачэньня, выйшаў. Па яго адыходзе пані R. угледзела на століку пачку на якой было напісана: „Для пані R. як слабы довад удзячнасьці дзікага“.

У пачцы было 25000 франкаў (францускія грошы).

З польскага пералажыў Сяроджа Пастушок.

---

## КУТОК СЬМЕХУ

У школе. Янка: Ці ты, Саўка, часта ходзіш ў лазьню мыцца.

Саўка. Не, даўна ўжо ня быў, але тата спраўляе мне кожны дзень „сухую лазьню“.

(Падаў Сяргей Атрахімовіч).

— Мама, я хацеў-бы быць нэграм.
— Чаму, сынок?
— Тады мне ня трэба было-б мыцца.

(Падаў А. Бярозка).

Мама гневаецца на лянівага хлопчыка: Чаму ты нічога ў пару ня зробіш? Кожную працу адкладаеш напазьней. Помні, што найлепш не адкладаць на заўтра таго, што можаш зрабіць сягоньня.

— Ах, калі так, мамачка,—кажа сынок, дык тады дай мне сягоньня тыя цукеркі, што ты схавала на заўтра.

# Загадкі і круцігалоўкі.

## Круцігалоўка прастакутная.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| а | 1 | | | | | 6 |
| б | | 2 | | | 7 | |
| в | | | 3 | 8 | | |
| г | | 4 | | | 9 | |
| д | 5 | | | | | 10 |

У радкох азначаных літарамі а, б, в, г, д, трэба паставіць словы. З літэраў якія знойдуцца ў клетачках азначаных цыфрамі 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, зложыцца псэўданім вядомага беларускага пісьменьніка.

Склады з якіх трэба злажыць словы: сва-тва-ба-рка-шок-лю-вяр-тун-чы-шап-рог.

## Значэньне слоў.

1) Выраб з малака, 2) інакш знахар, 3) расейская мера даўжыні, 4) працілежнае слову „здаровы" і 5) інакш вадка. (Падаў А. Бярозка).

## Загадка.

Лётаю ў летку, на зіму гіну, буджу таго, хто любіць драмаць.

(Падаў Кастусь Гвай).

## Загадкі.

„Марусі Антакалянкі".

1) Пяць ды пяць, і яшчэ пяць ды пяць будзе дзесяць.
2) Ад пяці пяць адняць—будзе пяць.
Як гэта можа быць? — згадайце.

## Разгадкі загадак з кніжкі І-ай.

**Круцігалоўка крыжыковая.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | я | | | | |
| | | | | к | | | | |
| | | | | у | | | | |
| | | | | б | | | | |
| я | к | у | б | к | о | л | а | с |
| | | | | о | | | | |
| | | | | л | | | | |
| | | | | а | | | | |
| | | | | с | | | | |

ЗАГАДКА —Зямля, агонь, вада, вецер.

ЗАГАДКІ ДРОБНЫЯ. 1) Клубок, 2) Сноп.

Рэдактар-Выдавец Л. Войцікава. Друк. Я. Левіна Вільня

# ЗАРАНКА

Ілюстраваная
часапісь
для дзяцей

ВЫХОДЗІЦЬ КНІЖКАМІ.

Падпісная цана з перасылкай: 3 кніжкі 1,15 зл. Адна кніжка 45 гр. Заграніцу удвая даражэй.

Падпіска прымаецца
з кожнага месяца

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ:

Вільня, Віленская вул. 12, кв. 6